

# Дзвінскі ўзгорак

*Кроч на свой родны, дзвінскі ўзгорак, каб глядзець у будучую сінь*

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №18 (87)
СНЕЖАНЬ 2018 ГОДА

МЯСЦОВАЯ ЎЛАДА

## ЯКІЯ САКРЭТЫ Ў ІХ АД НАРОДУ?

**Каб пракласці водаправод, жыхароў Суйкава пакінуць без тэлебачання, тэлефону і інтэрнэту.**

У кастрычніку аднавілася будаўніцтва водаправода ў вёсцы Суйкава Віцебскага раёна. За гэты час забудоўшчык замяніў трубы па вуліцы Новая, праклаў 200 метраў трубы па вуліцы Партызанская і 300 метраў па вуліцы Камуністычная — агулам не больш за кіламетр.

У кастрычніку аднавілася будаўніцтва водаправода ў вёсцы Суйкава Віцебскага раёна. За гэты час забудоўшчык замяніў трубы па вуліцы Новая, праклаў 200 метраў трубы па вуліцы Партызанская і 300 метраў па вуліцы Камуністычная — агулам не больш за кіламетр.

«Дні, у якія тэхніка працавала можна пералічыць па пальцах, у асноўным стаяла пустой. У дадзены час зямлю скавала маразамі, і будаўнікі не ўяўляюць, што рабіць. Па вуліцы Камуністычная трактары не могуць падняцца ў гару, каб даставіць да месца бетонныя кольцы. Прыйшлося экскаватарам перацягваць пясок з кучы, якая была для адсыпкі дарогі па вуліцы Партызанская, каб засыпаць абледзянелы ўздым праезду. Прывезлі ўстаноўку для прапілкі траншэй — не атрымліваецца, экскаватары ламаюць бясконца, у вусенічнага рвуцца вусені», — адзначае актывістка БХД Алена Янушкоўская.

На гэтым фоне мясцовая ўлада накіравала працаўнікоў сельсавета збіраць заявы са згодай людзей на адсутнасць сувязі — тэлефону, інтэрнэту, тэлевізару на працягу двух тыдняў, бо тэхніка УКБ будзе ірваць кабель.

«Людзі згодныя, бо нацярпеліся без вады, згодна і я, але ўсе абяцанні на словах, няма ні аднаго дакумента, ні гарантый, ні абавязкаў. Сёння адбыўся сакрэтны працоўны сход у Суйкава. Добра, што мне паведамілі пра гэта людзі, я прыйшла своечасова, і паспела пагаварыць з уладамі, і забудоўшчыкамі, дзе пачула ў свой адрас абвінавачванні, што мне патрэбен скандал, а не водаправод для людзей. Аднак на мае патрабаванні прад'явіць дакументальна гарантыі і абавязацельствы старшыня РВК Генадзь Сабынч адказаў, што гарантый нам ніхто не дасць. Таксама мне ніхто не патлумачы,ў навошта ім наша пісьмовая згода калі раней яе ніколі не пыталіся, і скаргі іх не палохалі», — адзначае актывістка.

«Прысутнічала адна з мясцовых жыхарак, крычала на мяне, што я адзіная не дала згоды, і праз мяне ўсё спыніцца. Я разумею яе нецярпенне, сама чакаю водаправода, як манны нябеснай, шкада толькі, што яна не разумее, што сваёй адмовай я абараняю іх інтарэсы, каб насельніцтва зноў не зрабілі крайнімі, бо дакументальных гарантый няма, абавязацельстваў няма, і ў будучыні нас могуць на доўга пакінуць без сувязі — скажуць грошай няма, цярпіце, а то яшчэ і за кабель парваны УКБ плаціць прымусяць. Мясцовым жыхарам прысутнічаць на сходзе забаранілі, выгналі. Паколькі я вельмі жадала застацца на дадзенай нарадзе, старшыня РВК аддаў каманду падначаленым ісці за ім у выканкам. І чаму яны так баяцца, чаму хаваюць свае твары, не жадаючы, каб іх фатаграфавалі, чаму так баяцца відэаздымкі, якія сакрэты ў іх ад народа?» — задаецца пытаннем Алена Янушкоўская.

**Сайт БХД**

БУДОЎЛЯ

## ГРАМАДЗКІЯ АКТЫВІСТЫ ГАТОВЫЯ СУПРАЦЬСТАЯЦЬ

**На сустрэчы ў гарвыканкаме было заяўлена што, калі стануць будаваць Палац шлюбаў у гістарычнай зоне, актывісты гатовыя легчы пад тэхніку.**

19 сьнежня актывісткі аргкамітэту «Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі» трапілі на прыём да намесьніка старшыні Віцебскага гарвыканкаму Віктара Глушына. У часе сустрэчы Тацяна Севярынец, Ірына Захарава і Алена Шабуня выказалі чыноўніку заклапочанасьць намерам пабудаваць Палац шлюбаў на тэрыторыі ахоўнай зоны Ніжняга замку.

Якраспавялі ВВ сябры БХД, сустрэча са спадаром Глушыным, гісторыкам па адукацыі, насіла нефармальны характар. Чыноўнік запэўніў, што ўсе пытаньні, зьвязаныя з будаўніцтвам у гістарычным цэнтры гораду і досьледамі культурнага слою, калі ён там ёсьць, будуць вырашацца згодна з заканадаўствам. Калі ёсьць культурны слой – значыць будуць археалягічныя дасьледаваньні. Было заяўлена, што канчатковае рашэньне пра будаўніцтва будзе прымацца пасьля аналізу з улікам розных меркаваньняў, патрэбаў і магчымасьцяў. Улічвацца будзе ўсё.

Са свайго боку актывісткі паспрабавалі давесьці, што нельга будаваць у ахоўнай зоне будынак, які парушыць сфармаваны архітэктурны ляндшафт, аднаўленьне якога, найверагодней, стане немагчымым ў будучыні. Выказалі прадстаўніцы грамадзкасьці і сваё бачаньне наконт забудовы плошчы Тысячагодзьдзя. Было адзначана, што сягоньня плошча і так мае прывабны выгляд, але пры наяўнасьці грошай і пасьля адмысловых археалягічных досьледаў мела б сэнс адрадзіць і будынак Дзяржаўнага банку, і Фарны касьцёл, і Харальную сынагогу, і іншыя знакавыя будынкі.

Пры канцы размовы сябры БХД выказалі спадзеў, што кіраўніцтва гораду пачуе голас грамадзкасьці.

Кажа каардынатарка аргкамітэту «Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі» па Віцебскай вобласьці Тацяна Севярынец:

– Адносна пабудовы Палацу шлюбаў з розных арганізацыяў на нашыя калектыўныя запыты мы ўжо атрымалі лістоў дзесяць. Былі мы і на грамадзкім абмеркаваньні, якое тычылася перадпраектнай справаздачы па ацэнцы ўзьдзеяньня праекту на навакольнае асяродзьдзе. З атрыманых пасьля абмеркаваньня адказаў мы даведаліся, што гэтая зона прыдатная для забудовы. Нас гэта вельмі абурыла. Адказы фармальныя. Карацей кажучы, як заўсёды. Толькі ў адным лісьце, з аддзелу архітэктуры, атрымалі прызнаньне, што справаздача рыхтавалася даўно, і ў ёй зроблены шэраг памылак. Пэўна, было спадзяваньне, што людзі ня будуць уважліва чытаць ці нават ня будуць наогул цікавіцца гэтай тэмай. І ўсё пройдзе.

З гэтай пазыцыі, відаць, было і сёньняшняе пытаньне да нас Віктара Глушына: «Чаму вы так зацікавіліся і чаму пытаньняў не было раней?» Я яму адказала, што гарадзкія ўлады ня грукаюцца да нас у дзьверы і не папярэджваюць пра тое, што мяркуюць пабудаваць. Калі даведаліся, тады і адрэагавалі.

Разам з тым трэба сказаць, што выслухаў ён нас уважліва. Размова была дэталёвая. Тэму нашага звароту ён ведае добра, але дакладнага адказу пра месца пабудовы будынку мы ад яго не атрымалі. Таму папярэдзілі яго, што будзем абскарджваць рашэньні гарадзкіх уладаў адносна пабудовы Палацу шлюбаў на тэрыторыі Ніжняга замку ва ўсіх інстанцыях.

Кропелькі даўніны зь вялікай гісторыі гораду, якіх так мала засталося ў Віцебску, мы проста абавязаныя захаваць. У іншым выпадку мы гатовыя стаяць да канца. Гатовыя нават легчы пад тэхніку, калі да гэтага дойдзе.

І самае галоўнае – ні сёньня, ні раней мы не пачулі адказу на пытаньні «Навошта Палац шлюбаў мусіць быць»? і «Чаму ён мусіць быць у гэтым месцы?»

**Якаў Дрозд**



АРХІТЭКТУРНАЯ СПАДЧЫНА

## ЧЫРВОНАЯ І ЧОРНАЯ КНІГІ

**Віцебскія архітэктары ствараюць Чырвоную і Чорную кнігі Віцебску.**

На перадапошніх у гэтым годзе занятках бясплатных лекцыйных курсаў «Віцебск: рэальная і папулярная гісторыя роднага гораду» архітэктары Аляксандар Міхайлюкоў і Глеб Арлоўскі падзяліліся з прысутнымі сваім бачаньнем адносна рэгенэрацыі, рэстаўрацыі і захаваньня аб'ектаў культурна-гістарычнай спадчыны Віцебску. Лекцыя пад назвай «Чорная і чырвоная кнігі Віцебску, аскепкі архітэктурнай спадчыны» сабрала амаль поўную залю слухачоў.

Ці атрымаецца кнігу калі-небудзь надрукаваць, альбо яна будзе існаваць толькі ў электронным выглядзе, пакажа час, але ўжо цяпер аб'ём матэрыялу, сабранага адмыслоўцамі, уражвае. Што тычыцца назвы кнігі, то ён падаецца цалкам абгрунтаваным. Чырвоная кніга – гэта каталёг горадабудаўнічых, архітэктурных ці рухомых аб'ектаў культурна-гістарычнай спадчыны Віцебску, якія знаходзяцца пад пагрозай зьнікненьня або частковай страты і патрабуюць захадаў па іх ахове і абароне. Чорная кніга – каталёг горадабудаўнічых, архітэктурных ці рухомых аб'ектаў культурна-гістарычнай спадчыны, якія страчаныя незваротна.

Архітэктараў Аляксандра Міхайлюкова і Глеба Арлоўскага прысутным у залі прадставіў адзін з арганізатараў курсаў кандыдат

*(працяг на стар. 2)*

АРХІТЭКТУРНАЯ СПАДЧЫНА

*(пачатак на стар. 1)*

гістарычных навук Дзяніс Юрчак.

На пачатку свайго выступу, робячы экскурс у мінуўшчыну Віцебску, Аляксандар Міхайлюкоў зазначыў, што, не зважаючы на вялікія страты архітэктурнай і горадабудаўнічай спадчыны, у Віцебску захаваўся шэраг цікавых будынкаў. Разам з тым можна казаць, што з тысячаў архітэктурных і горадабудаўнічых каштоўнасьцяў засталіся дзясяткі. Незваротныя архітэктурныя страты матэрыяльнай культуры гораду складаюць бадай што 95 адсоткаў ад першапачатковага стану. Асноўныя страты зьвязаныя з вайной, але і ў пасьляваенны пэрыяд страчана нямала.

Як патлумачыў адмысловец, няглядзячы на тое, што вялікая тэрыторыя віцебскіх замкаў лічыцца ахоўнай зонай ды мае вялікі культурны і рэгенэрацыйны патэнцыял, дэ-факта яна зьяўляецца ласым кавалкам для архітэктараў і замоўцаў. Трэба ўлічваць тут і магчымасьці для праявы сваіх амбіцыяў з боку ўладных структураў. Усё гэта цягне канфлікты з той часткай грамадзкасьці, якая заклапочаная навуковай рэгенэрацыяй страчанай архітэктурнай спадчыны.

У сувязі з гэтым Аляксандар Міхайлюкоў закрануў праблему пабудовы на плошчы Тысячагодзьдзя Палацу ўрачыстых абрадаў. На погляд архітэктара, сытуацыя складаная і вынікае з ланцужка ўжо зробленых памылак. Існуе шэраг дакумэнтаў, якія намінальна дазваляюць будаўніцтва, хаця з улікам базавых палажэньняў кодэксу аб культуры, тут ёсьць парушэньне заканадаўства. Першапачаткова Палац шлюбаў плянаваўся як асобны будынак з чатырма фасадамі. Затым было вырашана, што адзін з фасадаў будзе нагадваць колішні Дзяржаўны банк, але па аб'ёме ён не супастаўляльны з банкам гістарычным. Апроч таго, паўстае пытаньне, чаму палац мусіць быць падобны да банку? Там была маса іншых будынкаў, сярод якіх і гасьцініца «Брыстоль».

Пытаньне пабудовы Палацу шлюбаў стала самым хвалюючым ня толькі для выступоўцы, але і для прысутных у залі. Некалькі пытаньняў, зададзеных лектару слухачамі, тычыліся менавіта гэтай праблемы.

Калі Аляксандар Міхайлюкоў у сваім выступе казаў найперш пра аб'екты з Чорнай кнігі ды закранаў рознага кшталту тэарэтычныя пытаньні, то Глеб Арлоўскі засяродзіўся на канкрэтных гістарычных аб'ектах з Чырвонай кнігі і іх архітэктурных адметнасьцях. Як ён патлумачыў, у кнігу ўлучаныя аб'екты дзьвюх катэгорыяў, то бок аб'екты, якія знаходзяцца пад пагрозай поўнага зьнікненьня, і аб'екты, якія знаходзяцца пад пагрозай частковага зьнікненьня.

У першую катэгорыю ўключаныя аб'екты, якія не зьяўляюцца гісторыка-культурнымі каштоўнасьцямі, помнікамі архітэктуры і не ўваходзяць у гістарычны цэнтар. Хоць яны не зьяўляюцца асобнымі помнікамі архітэктуры, але маюць усе падставы быць імі. На жаль, праз гэтую нявызначанасьць архітэктурныя будынкі могуць губляць свае гістарычныя рысы, аж да поўнага зьбіцьця дэкору ці зьнікненьня адметнасьцяў праз атынкоўку, уцяпленьне фасаду пенапластам ці сайдынгам.

У шэрагу такіх гістарычных помнікаў прамоўца назваў дарэвалюцыйны будынак па вуліцы Лякаматыўнай, 14 (паліклініка №7), будынак былога сьвечачнага заводу на вуліцы Мічурына, 18, жылы дом па вуліцы Мічурына, 5А, будынак па вуліцы Маўзона, 51 і цэлы шэраг іншых будынкаў, некаторыя зь якіх датуюцца нават 18-м стагодзьдзем.

Як зазначыў Глеб Арлоўскі, дзеля максымальнадакладнага датаваньня гісторыя кожнага будынка адсочваецца па гістарычных мапах і архіўных дадзеных. Робяцца абмеры, фіксуюцца іх памеры і габарыты. Гэта неабходна для магчымага ў далейшым аднаўленьня або аналізу сабранай інфармацыі. Работа па каталягізацыі архіўных аб'ектаў працягваецца.

**Ян Сьведка**

ПРАВЫ ДЗІЦЯЦІ

# ПРАКУРАТУРА ПАПЯРЭЖВАЕ

**Паводле афіцыйных дадзеных, у Віцебскай вобласьці 3525 дзяцей знаходзяцца ў сацыяльна небясьпечным становішчы.**

Зь іх толькі пяцёра прызнаныя такімі з прычыны жорсткага абыходжаньня. Пракуратура мяркуе, што афіцыйная статыстыка не адлюстроўвае рэальнага стану рэчаў.

Так, толькі па фактах гвалтоўных злачынстваў чальцоў сем'яў у дачыненьні да ўласных дзяцей у рэгіёне было распачата 11 крымінальных спраў. А ў праваахоўныя органы рэгулярна паступае інфармацыя пра фізычнае і маральнае ўздзеяньне на непаўналетніх у сем'ях.

Сёлета ў многіх рэгіёнах вобласьці пракуратура выносіла органам апекі і папячыцельства прадпісаньні пра абарону правоў дзяцей, якія сталі ахвярамі гвалту паміж бацькамі, альбо калі гвалт да дзяцей ужывалі самі бацькі.

Напрыклад, пракурор Аршанскага раёну тройчы выносіў такія прадпісаньні, калі дзеці цярпелі праз злачынствы бацькоў, зьвязаныя з прычыненьнем чальцам сем'яў менш цяжкіх цялесных пашкоджаньняў, катаваньняў або пагроз забойствам. Пасьля актаў пракурорскага нагляду прызналі, што гэтыя дзеці знаходзяцца ў сацыяльна небясьпечным становішчы, і адабралі іх у нядбайных бацькоў.

Пры гэтым падчас праверкі выкананьня заканадаўства аб папярэджаньні жорсткасьці і гвалту ў дачыненьні да дзяцей у сям'і і прафіляктыцы злачынстваў супраць палавой недатыкальнасьці непаўналетніх пракуроры выявілі, што міліцыя не заўсёды інфармавала органы апекі і папячыцельства аб фактах сямейных скандалаў і гвалту, якія сталі ёй вядомымі. Як вынік, тыя не праводзілі сацыяльныя расьсьледаваньня і не рабілі захадаў па абароне дзяцей.

Установы адукацыі вобласьці правялі 7719 сацыяльных расьсьледаваньняў, зь іх 2787 – без удзелу супрацоўнікаў органаў унутраных спраў, што пагоршыла іх якасьць.

Органы ўнутраных спраў не заўсёды перадавалі пракурорам матэрыялы для распачынаньня адміністрацыйнага працэсу па фактах сямейнага гвалту правамі пракурора, з прычыны чаго дэбашыры часам пазьбягалі адказнасьці.

Так, у Наваполацку цягам году з-за прымірэньня бакоў тройчы спынялі вытворчасьць у дачыненьні да галавы сям'і, які зьбіваў сваіх жонку, дачку і шасьцігадовага сыночка.

Асаблівую трывогу ў пракурораў выклікалі злачынствы супраць палавой недатыкальнасьці непаўналетніх. Праверка выявіла факты, калі ўстановы адукацыі і органы ўнутраных спраў працавалі зь сем'ямі фармальна. Такі падыход дазволіў некаторым бацькам зьдзяйсьняць гвалт над дзецьмі альбо заставаліся абыякавымі да такому гвалту.

Патрабуе паляпшэньня праца шэрагу ўстаноў аховы здароўя па перадачы праваахоўным органам зьвестак, якія маглі б сьведчыць пра зьдзяйсьненьне ў дачыненьні да дзяцей злачынстваў супраць палавой недатыкальнасьці, у тым ліку чальцамі іх сям'і і іншымі асобамі, што жывуць разам зь імі.

Вынікі праверкі дэталёва разгледжаны на паседжаньні калегіі пракуратуры Віцебскай вобласьці з удзелам зацікаўленых ведамстваў і службаў. Па выніках прыняты шэраг дадатковых арганізацыйна-практычных мераў з замацаваньнем адказных выканаўцаў і вызначэньнем тэрмінаў для працы. Выкананьне рашэньня ўзятае на асаблівы кантроль абласной пракуратуры, паведамілі ў службе інфармацыі пракуратуры Віцебскай вобласьці.

**Сяржук Серабро**

**ННВ**

ВІНШАВАННЕ

# ДАРАГІЯ БРАТЫ І СЁСТРЫ Ў ХРЫСЦЕ!

**“Не бойцеся, я абвяшчаю вам вялікую радасць, якая будзе для ўсяго народу, бо нарадзіўся вам сёння ў горадзе Давіда Збаўца, Якім ёсць Хрыстос Госпад” (Лк 2,10-11). Нарадзіўся вам сёння Збаўца! У той далёкі ад нас час пасланец з неба абвесціў праўду, якая кранае кожнага чалавека: з намі ёсць Бог! “…Які быў і які прыходзіць, Усемагутны”! (пар. Ап.1,8).**

Прысутнасць Бога можна параўнаць у нейкім сэнсе з наяўнасцю паветра. Яно не толькі дазваляе нам дыхаць, а гэта азначае – жыць, але і абараняе ад розных шкодных уплываў. Больш за тое, чалавек карыстаецца паветрам і ў сваёй дзейнасці, дзякуючы чаму не толькі жыве, але і арганізоўвае сваё жыццё. Аднак на гэтым аналогія заканчваецца. Бог чакае ад чалавека адказу, свядомага прыняцця Яго Любові. Менавіта таму “…слова сталася целам і пасялілася між намі”(Ян 1,14). Бог прыходзіць да нас як Чалавек, але таксама і праз чалавека: “…тое, што вы зрабілі аднаму з гэтых братоў Маіх меншых, вы Мне зрабілі” (Мц 25,40). У гэтым заключаецца сэнс збаўлення, каб вярнуць нам поўную лучнасць з Богам, якую мы страцілі праз грэх, і дасягнуць вечнага жыцця.

Безумоўна ж, прыняць гэтую праўду мы можам толькі праз веру. Бо вера – гэта досвед нашых адносінаў з Богам, Які, напэўна, неаднойчы даваў нам адчуць сваю прысутнасць. Наколькі мы былі здольныя гэта заўважыць? Найпрасцей гэта зрабіць дзецям, больш шчырым і адкрытым на праўду. Таму Езус скажа ў свой час: “…калі не навернецеся і не станеце як дзеці, не ўвойдзеце ў Валадарства Нябеснае”(Мц 18,3). Ён сам прыходзіць у гэты свет як маленькае Дзіцё, каб паказаць, што не нясе з сабой нічога, што было б незразумелым ці немагчымым да прыняцця, чагосьці, чаго трэба баяцца.

Няхай Свята Божага Нараджэння стане для кожнага з Вас момантам новага адкрыцця Божай Любові, а Яго прысутнасць напоўніць Вашыя сэрцы святлом і супакоем, дапамагаючы пераадолець жыццёвыя цяжкасці! Радасці, дабрабыту, духоўнай раўнавагі і Божага блаславення на гэты час і на новы 2019 год!

Са Святам!

**Біскуп Алег Буткевіч**

**Catholicnews.by**

ЗЛАЧЫНСТВЫ

# КРАЖУ РАСКРЫЛИ

**В Витебском районе ИП похитил со стоянки полуприцеп. 45-летнего мужчину искали почти 2 месяца и задержали при буксировке украденного.**

Заявление о краже от частной компании, занимающейся международными грузоперевозками, поступило в милицию 20 ноября. Полуприцеп-рефрижератор «Schmitz», оценочной стоимостью около 12 тысяч евро, был похищен с охраняемой стоянки.

Сложность вызывал тот факт, что полуприцепом не пользовались более месяца и точную дату пропажи определить стало возможным только благодаря записям камеры видеонаблюдения, сообщает УВД Витебского облисполкома.

На камеру попал тот момент, когда неизвестный мужчина на седельном тягаче марки Вольво с регистрационными номерами Евросоюза, произвел сцепку с полуприцепом и уехал.

Оперативниками также был отработан круг лиц, занимающихся грузоперевозками. В результате было установлено, что к совершению преступления причастен витебский предприниматель.

45-летний мужчина, имея доступ к ключам от тягача своего знакомого, без его ведома воспользовался автомобилем, предварительно сменив белорусские регистрационные номера на номера Евросоюза. Вечером 29 октября он заехал на стоянку транспортного предприятия и похитил полуприцеп. Отбуксировав его в городской поселок вблизи Витебска, мужчина вернул тягач на место.

В течении нескольких дней он видоизменил прицеп — покрасил некоторые элементы, сменил наклейки, а также предпринял меры для уничтожения идентификационных номеров.

Витебчанин был задержан ночью 19 декабря при буксировке украденного рефрижератора.

За кражу, совершенную в крупном размере, в отношении индивидуального предпринимателя возбуждено уголовное дело по части 3 статьи 205 УК Республики Беларусь. Также решается вопрос о привлечении его к ответственности за угон седельного тягача Вольво и видоизменение номерных идентификационных знаков полуприцепа.

**Віцебскі кур'ер**

АБ'ЯВА

***Каб атрымліваць кожны нумар газеты “Дзвінскі Ўзгорак” паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***

***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты “Дзвінскі Ўзгорак“.***

***Наша газета стала размяшчацца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***

ВЕРСІЯ

# КАМУ ВЫРАШАЦЬ ЛЁС БЕЛАРУСІ?

**Тэма выбараў запускае безліч непрыемных для кіраўніка Беларусі спекуляцый.**




Днямі расійскі апазіцыянер Ілля Панамароў, як напісаў украінскі «Обозреватель», «раскрыў планы Пуціна па Беларусі».

Невядома, канешне, адкуль Панамароў ведае пра планы Пуціна, аднак, на яго думку, кіраўнік Расіі плануе адрадзіць Саюзную дзяржаву з Беларуссю. Для рэалізацыі гэтага плана Пуціну неабходна адхіліць ад улады Лукашэнку.

Панамароў нагадаў, што Расія прызначыла ў Беларусь паслом з пашыранымі паўнамоцтвамі Міхаіла Бабіча. «Бабіч у Расіі вядомы тым, што ён сілавік і спецыяліст па самых брудных і гвалтоўных выбарах, якія праходзілі ў расійскіх рэгіёнах. Такі сабе спецпаліттэхнолаг. Хутчэй за ўсё, гэта сведчыць, што Крэмль будзе актыўна гуляць на гэтых (беларускіх. — аўт.) выбарах», — растлумачыў ён.

«Калі ў іх атрымаецца прыбраць Лукашэнку, тады яны паспрабуюць аднавіць ідэю саюзнай дзяржавы Расіі і Беларусі — «СССР–2.0», каб можна было вывесці Пуціна на выбары прэзідэнта гэтай аб’яднанай дзяржавы», — кажа расійскі палітык.

Паводле меркавання Панамарова, гэта дазволіць Пуціну, па-першае, падвысіць свой рэйтынг за кошт, дэ-факта, далучэння Беларусі да Расіі, а па-другое, стаць кіраўніком «Саюзнай дзяржавы», прычым, без абмежавання канстытуцыйных тэрмінаў.

Што ж, версія, як кажуць, не пазбаўленая вытанчанасці. Адна бяда — рэалізаваць яе можна было ў мінулым стагоддзі, калі працэс фармавання «Саюзнай дзяржавы» ішоў напоўніцу, і ўсе былі поўныя энтузіязму з гэтай нагоды. Зараз — іншы час.

Па-першае, «змяніць Лукашэнку». Адразу ўзнікае пытанне: якім чынам? Працэс «кіруемых выбараў» у Беларусі адладжаны значна лепей, чым у Расіі. Можна нават сказаць, што гэта Расія ўзяла на ўзбраенне «беларускую мадэль». І ў такіх варунках разлічваць на тое, што беларускі Цэнтрвыбаркам выдасць лічбы, адрозныя ад прагназуемых, — смеху варта. Расія прапануе старшыні беларускага ЦВК столькі грошай, што яна «здасць» свайго патрона? Наўрад ці. Бяспека грашыма не вымяраецца.

Па-другое, нават калі Расія «здыме» Лукашэнку, праблемы толькі пачынаюцца. Трэба напісаць Канстытуцыю «Саюзнай дзяржавы». Трэба стварыць не толькі агульную пасаду прэзідэнта, але і агульны парламент. Трэба, каб гэтая Канстытуцыя была ўхвалена народамі абедзвюх дзяржаў, то бок — праведзены рэферэндум. А ўжо потым — выбары прэзідэнта, парламента і гэтак далей.

З рэферэндумам, нават пры кіраваным выбарчым працэсе, узнікнуць надзвычайныя складанасці. Напрыклад, паводле беларускага заканадаўства, на рэферэндум нельга выносіць пытанне, якое можа выклікаць парушэнне тэрытарыяльнай цэласнасці Рэспублікі Беларусь (а «Саюзная дзяржава» — менавіта такое пытанне). То бок, спачатку беларусам давядзецца змяніць Выбарчы кодэкс.

Вынікі рэферэндуму — пасля захопу Расіяй Крыму і дзеянняў на Данбасе, а зараз і ў Азоўскім моры, — наўрад ці прадказальныя. У сярэдзіне 2016 года, паводле звестак НІСЭПД, толькі 52% апытаных падтрымалі б уваходжанне Беларусі ў склад Расіі. Гэта большасць, канешне, але непераканаўчая. І яшчэ горш: калі б быў выбар, куды ісці, — у Еўрасаюз ці Расію, Расію б выбралі толькі 42%.

Дапусцім усё ж, што і рэферэндум прайшоў. Тады ў нас пачынаюцца выбары кіраўніка Саюзнай дзяржавы. Хто-небудзь можа даць гарантыю, што на іх не высуне сваю кандыдатуру «адхілены» Расіяй Лукашэнка?

Расійскі аналаг Аляксандра Рыгоравіча — Павел Грудзінін — на нядаўніх выбарах кіраўніка Расіі заняў другое месца і склаў даволі сур’ёзную альтэрнатыву Пуціну. Што ж тычыцца Лукашэнкі, то, згодна з апытаннямі расійскага ВЦИОМ ад 2017 года, да яго «з павагай і сімпатыяй» ставяцца 27% расіян. А 54% сказалі, што «мне не ва ўсім падабаецца Лукашэнка, але я паважаю выбар народа Беларусі».

Перамога Пуціна на выбарах кіраўніка Саюзнай дзяржавы — зусім не гарантаваная.

Але самы галоўны складнік, які перашкаджае стварэнню «СССР 2.0», — гэта грошы. На ўсе выкладзеныя вышэй дзеянні (без гарантаванага станоўчага выніку) трэба процьма грошай. І яшчэ больш спатрэбіцца пасля рэалізацыі такога сцэнару, бо давядзецца аб’ядноўваць грашовыя сістэмы, і Расія займее яшчэ б датацыйных рэгіёнаў, якія трэба карміць.

А ў іх не хапае грошай на сваіх пенсіянераў, інакш бы яны не праводзілі пенсійную рэформу і не падымалі пенсійны ўзрост. Што, дарэчы, і абваліла рэйтынг даверу да Пуціна — зараз, паводле дадзеных таго ж ВЦИОМ, яму давяраюць толькі 37,5% расіян. Лукашэнка па прыязнасці адстае ад кіраўніка Расіі ўсяго на 10% — прычым, на яго, Пуціна, тэрыторыі!

Так што версія Панамарова — усяго толькі версія. Крамлю лепш пакінуць усё, як ёсць, чым займець сабе яшчэ адзін галаўны боль. А значыць, лёс Беларусі ўсё ж будзе вырашацца беларусамі.

**Сяргей Пульша**
**“Новы Час”**

ЭНЭРГАРЭСУРСЫ

# КЛЮНУЛ, КАК БЕДНЫЙ КАРАСЬ, НА ОБМАНКУ

**Известный экономист объяснил, в чем прав и в чем был не прав Лукашенко в нефте-газовом споре.**

По мнению руководителя Аналитического центра «Стратегия» Леонида Заико, Беларусь вправе требовать от России равных условий и единых цен на энергоресурсы.

— Александр Григорьевич идёт по пути объективной оценки ситуации. Потому что создали интеграционное образование, а самый простой, самый перетекаемый товар — нефть и газ — оказались вне поле игры. Так нельзя делать, — заявил экономист в интервью на Примусе.

Однако стоит учесть, что Лукашенко собственной рукой подписывал одно за одним интеграционные соглашения на протяжении более 20 лет. Ведь первый договор о Таможенном союзе появился в 1995 году.

— Не той ручкой, видно подписывал, — шутит Леонид Заико. — Когда Семёна Михайловича Будённого в ЦК КПСС допрашивали, почему он связался с Троцким и прочими, он оправдывался: «Чёрт попутал». Вот и тут: почему подписывали? Чёрт попутал. Наша проблема состояла в том, что с конца девяностых годов мы вдруг решили, что вот эта вот российская нефть сделает нас сильными, богатыми, могучими и умными. А оказалось, что мы просто угорели от паров.

По мнению экономиста, с точки зрения экономической теории Беларусь присваивала себе чужие ресурсы и недры.

— Это то же самое, что жить на краденое, — считает Леонид Заико. — Хотя Россия сама давала нам «на бедность». Это мне напоминает ситуацию, когда девушка из какой-то бедной семьи выходит замуж за богатого парня, а потом получается, что у неё денег нет даже на пирожок. Наша белорусская девушка тоже думала, что будет во всю русскую нефть перерабатывать — есть же два нефтеперегонных завода с потенциальной мощностью 30 млн тонн, а стране надо всего 7 млн — а потом продавать всем, начиная с Виргинских островов до Великобритании и Голландии. И будет красиво жить. Ребята, здесь вы закопали сами себя!

Экономист считает, что свое будущее Беларусь может строить только лишь на интеллектуальном продукте, на создании новых технологий, программ.

— Александр Григорьевич клюнул, как бедный карась, на обманку с российской нефтью. Не надо было этим заниматься, углеводородная эпоха закончилась, — уверен Леонид Заико. — И конечно, Россия будет его зажимать. Щемить пальцы и другие места в дверях. Лукашенко это понимает. А тут еще страна демонстрирует рост ниже среднемирового, активности нет, предприятия нуждаются в деньгах. В общем, плохо со всех сторон.

**Павел Дмитриев**
**gazetaby.com**

БЕЛАРУСКАЯ ДЗЯРЖАЎНАСЦЬ

# «ВЫ МУСІЦЕ НАДЗЕЦЬ МОВУ.. НА СВАЕ ВУСНЫ»

**Дэпутат Марзалюк: «Усялякі, хто адмаўляе існаванне беларускай нацыі, павінен у іншых месцах тлумачыць свае погляды».**

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, гісторык Ігар Марзалюк расказаў пра работу над першым томам Гісторыі беларускай дзяржаўнасці. Гэта кніга, якая стане ідэалагічным базісам для вывучэння гісторыі ў школах і ўніверсітэтах.

Свае заявы ён зрабіў падчас адкрытага дыялогу на тэму «Станаўленне і развіццё беларускай дзяржаўнасці», арганізаваным БРСМ у Нацыянальнай бібліятэцы. Марзалюк на пытанні студэнтаў адказваў то па-руску, то па-беларуску, дадаўшы, што валодае яшчэ і нямецкай.

«Тое, што мы выводзім сваю гісторыю з Полацка, некаторым здаецца недарэчным, але [выводзіць] ад Ноўгарада — не здаецца», — рытарычна канстатаваў Марзалюк.

«Нацыя — гэта прадукт эпохі асветніцтва. Першая фаза ранненацыянальнага будаўніцтва пачынаецца ў эпоху рэнесансу, але роквіт — гэта канец 18-га, 19-е стагоддзе, у гэтым плане мы не недаспелыя, не пераспелыя — мы нармальныя, — працягнуў ён. —

Многія не разумеюць, што беларускія нацыянальны праект — фантастычна паспяховы. Мыдоўгазапрагаем, але хутка едзем.

Вацлаў Ластоўскі ў 1917 годзе ўпершыню агучыў думку, што Беларусь можа стаць незалежнай. Ні ў адной папярэдняй праграме нацыянальна-вызваленчага руху не ўздымалася пытанне аб незалежнасці краіны. І за сто гадоў прайсці шлях ад этнаграфічнай супольнасці, у якой не было ніякай формы дзяржаўнасці, да мадэрновай нацыі, незалежнай дзяржавы, з усімі атрыбутамі...

Беларусы — не менш нармальныя, чым ірландцы, але не ўсе ірландцы маюць дзяржаўнасць.

Як бы там ні было, як казаў Алег Латышонак, калі нарадзілася ягоная бабуля, быў Паўночна-Заходні край і усімі кіраваў Мікалай II, калі памірала — мы другі раз абіралі прэзідэнта.

Гэта было каласальна важнае стагоддзе з усімі стратамі і здабыткамі. Мне надакучыла гэтая канфрантацыя і акопная страляніна — у адных толькі БНР, у другіх...

Гэта няправільна, ва ўсяго адныя вытокі — беларускі нацыянальна-вызваленчы рух, часопіс „Гоман“, нашаніўскі перыяд, Беларуская сацыялістычная грамада, кульмінацыя і вяршыня — Усебеларускі з’езд у 1917 годзе, які адбыўся тут, у Мінску. Хутка гэтую пазіцыю пачнуць крытыкаваць з усіх бакоў, некаторыя будуць называць гэта нацыяналістычным шабашам...

Паўтару метафару майго любімага Міхася Стральцова, што мы як трава — нас косяць, а мы ёсць. Гэта нашая неўміручасць, беларуская нацыя ёсць. Калі датэгуль не з’елі, то ўжо не з’ядуць».

«Вы, бачу, надзелі вышыванкі, але вы мусіце надзець мову сэрца яшчэ і на свае вусны, — звярнуўся ён да актывістаў БРСМ. — Я хачу нагадаць прыклад габрэяў. Іўрыт, на якім гавораць у Ізраілі, — на ім ніхто не гаварыў, гэта была мова багаслужэнняў. Хто яго ведаў, хто разумеў? У нас сітуацыя лепшая за тую. Так, не кожны можа сказаць хораша і прыгожа, але ўсе разумеюць. І не трэба тут халодный вайны, Беларусь адна — яна можа быць рознай па палітычных поглядах. Калі параўнаць з сімваламі веры, то сімвалы нашай нацыі — гэта гісторыя, павага да нацыі, павага сваёй дзяржавы.

Усялякі, хто адмаўляе факт існавання беларускай нацыі і культуры, — ён па-за канстытуцыйным перыметрам, ён павінен тлумачыць у іншых месцах, чаму [такія погляды]».

**“Наша Ніва”**

БЕЛАРУСЬ – РАСІЯ

# ХОТЯТ ЛИ БЕЛОРУСЫ ВСТУПИТЬ В РОССИЮ?

**Многие в России уверены, что белорусы спят и видят себя в государстве со столицей в Москве. Об их якобы массовой тяге к «братскому единению» с новой силой заговорили в свете прозвучавшего на днях «ультиматума Медведева». На союзном Совмине 13 декабря в Бресте премьер РФ Дмитрий Медведев де-факто обусловил дальнейшую финансово-экономическую помощь Беларуси «продвинутым вариантом» интеграции по схеме союзного договора 1999 года.**

Это вызвало новое напряжение между Минском и Кремлем. Причем в Москве слышатся голоса, что это, мол, Батька упрямится, а вот белорусское население вопрос равных цен на газ с удовольствием решило бы раз и навсегда, кардинально.

«Я уверен, если сейчас провести в Белоруссии референдум о возвращении в состав России — абсолютное большинство поддержит это. В 1990 году за сохранение СССР проголосовали 82% белорусов, больше, чем в среднем по Союзу», — написал в Telegram российский политик Владимир Жириновский.

**Почему хромает довод Жириновского**

Сразу отметим, что ссылка на горбачевский референдум о сохранении СССР некорректна по всем параметрам.

Между прочим, проходил референдум не в 1990-м, а 17 марта 1991 года. Далее, сам вопрос был запутанным, в несколько этажей. Было непонятно, идет ли речь об СССР в прежнем виде или же о некой принципиально обновленной федерации суверенных республик. И, если уж на то, в шести из девяти голосовавших республик доля высказавшихся за Союз была выше, чем в БССР (например, в Азербайджанской ССР — 93,3%, Туркменской ССР — 97,9%).

Так и что? Кто-то всерьез сейчас ставит вопрос о вхождении Азербайджана или Туркмении в Россию? Да, и заметьте, тогда ведь речь шла о дальнейшем пребывании в Советском Союзе, а теперь — о поглощении Россией. Почувствуйте разницу.

Ну, а самое главное — много воды утекло. Массовое сознание в бывших «республиках-сестрах» сильно изменилось. И жестоко ошибаются те россияне, которые полагают, что коль скоро белорусы в массе своей говорят по-русски, то все или почти все они — до мозга костей люди «русского мира». И, конечно же, изнывают от желания воссоединиться.

Да, Беларусь заметно русифицирована (в этом плане до СССР постаралась еще Российская империя), и это проблема с точки зрения укрепления национальной идентичности.

Но при этом за 27 лет после Вискулей независимость как ценность глубоко укоренилась в белорусском обществе.

Национальные опросы, которые регулярно устраивались в постсоветское время, показали, что у белорусов всегда были высоки интенции к тесным отношениям, взаимодействию, союзу с Россией, но не к объединению в полной степени. Об этом заявил в комментарии для Naviny.by политический аналитик Юрий Дракохруст. Эти опросы, подчеркнул собеседник, проводились «и в хорошие экономические времена, и в плохие экономические времена, и когда были конфликты с Россией, и когда была дружба с ней». При этом доля желавших, чтобы Беларусь оказалась в России, «как Татарстан, Чечня или Рязань», всегда была «очень небольшой и достаточно стабильной». «Не вижу особых причин, чтобы отношение белорусов к этому вопросу сильно изменилось», — сказал Дракохруст…

**Лукашенко уже ответил без плебисцита**

Наконец, мысль Жириновского, что хорошо бы «сейчас провести в Белоруссии референдум о возвращении в состав России», — это всего лишь благое пожелание. Из разряда «хотеть не вредно».

Это кто же такой плебисцит станет проводить? Белорусский Центризбирком? Так ведь с учетом особенностей организации электоральных кампаний в нашей державе можно быть уверенным, что, получив отмашку первого лица, здешняя вертикаль обеспечила бы и 120% голосов за независимость. В духе: накося выкуси, империя!

Но Александр Лукашенко такого референдума затевать не станет, уверен Дракохруст. Своим жестким ответом на ультиматум Медведева в прошлую пятницу на встрече с российскими журналистами (независимость — это святое, шантажировать нас бесполезно и пр.) белорусский официальный лидер, по мнению аналитика, уже расставил точки над і.

«Одна из переговорных стратегий, особенно если у тебя не слишком сильная позиция, — это как бы не оставить себе выхода, показать оппоненту, что у тебя нет другого выхода», — отмечает собеседник. И в этом плане Лукашенко сжег за собой мосты, теперь любые колебания означали бы для него моральное поражение, считает Дракохруст.

Конечно, теоретически возможен и вариант референдума а-ля Крым — с присутствием зеленых человечков. Не случайно белорусский президент так противится размещению российской военной базы. Но пока по целому ряду причин (это — отдельная тема) некой гибридной войной с применением вооруженного компонента в отношении Беларуси не пахнет.

**Делать из населения граждан**

Вот элементы информационной войны — да, практикуются. Достаточно вспомнить документальный телесериал «Крестный батька» в 2010 году или недавний, августовский вброс о якобы инсульте у белорусского руководителя.

И в целом массированное присутствие российских СМИ в белорусском информационном пространстве давно вызывает опасения у независимых аналитиков, а после Крыма, кажется, стало серьезно заботить и власти.

Вместе с тем, даже если бы они не боялись развивать независимые национальные медиа, у Беларуси в силу разности весовых категорий с восточной соседкой нет возможностей создавать соизмеримую с российской массу интересного оригинального контента. Тем более немыслимо изолировать белорусов от российских СМИ.

Выход в том, чтобы граждане были невосприимчивы к чужой пропаганде. А это означает, что нужно активнее браться за белорусизацию, строить диалог с гражданским обществом, короче — вкладываться в укрепление национального самосознания.

И вот это — один из самых сложных вызовов, который поставлен ультиматумом Медведева перед белорусским руководством.

Лукашенко надеется все разрулить лично с Владимиром Путиным, советует народу готовиться к новогодней елочке.

Однако даже если с Путиным о чем-то удастся сейчас договориться, в принципе проблема не рассосется. Главред «Эха Москвы» Алексей Венедиктов сказал на днях откровенно: Кремль смотрит на Беларусь, как на Крым, но ждет, пока плод созреет и упадет в руки.

Лишь наивный может уповать на равноправную интеграцию со страной, у которой такой сильный имперский бэкграунд, имперский менталитет. Без опоры на сознательных граждан белорусская независимость будет оставаться в зоне сильного риска. Москва ведь играет вдолгую.

**Александр Класковский**
**«Белапан»**

МЕРКАВАННЕ

# «КІРАЎНІЦТВА РАСЕІ СТАВІЦЦА ДА БЕЛАРУСІ, ЯК ДА КРЫМА»

**Аб гэтым рэдактар «Эха Москвы» Аляксей Венедыктаў заявіў у эфіры сваёй перадачы, прысьвечанай расейска-ўкраінскім адносінам.**

Перадача «Будем наблюдать» з удзелам галоўнага рэдактара радыёстанцыі «ЭхоМосквы» і журналіста Сяргея Бунтмана выйшла ў эфір 15 сьнежня. Сярод іншага яе ўдзельнікі абмеркавалі і зьмены ў расейска-беларускіх адносінах. Пры гэтым Венедыктаў выказаў меркаваньне, што расейскія ўлады чакаюць моманту для інкарпарацыі Беларусі ў склад Расеі.

«Я заўсёды казаў, я згодны з прэзыдэнтам Лукашэнкам, што адна з магчымасьцей і ўяўленьняў цяперашняй крамлёўскай каманды — гэта інтэграцыя з Беларусьсю, сказаў Венедыктаў. — Хуткасьць і форма інтэграцыі ў Крамлі і Беларусі розныя. Так, Лукашэнка хоча захаваць для Беларусі незалежнасьць і быць незалежным прэзыдэнтам... І калі я быў у Беларусі мінулым летам, я бачыў, якім чынам даволі хуткімі тэмпамі даволі хутка разьвіваецца ўкраненьне беларускай мовы, напрыклад, беларускай гісторыі. „І мы спадкаемцы не Кіева, — кажа Лукашэнка, — як Масква, а мы спадкаемцы Вялікага княства Літоўскага. Мы спадкаемцы Вільні“... Погляды цяперашняй кіруючай (у Расіі — РС) каманды на Беларусь я ўяўляю. Яны такія ж былі і на Крым раней. Ну, пакуль што не — не. А калі ўпала ў рукі — тады і возьмем».

Таксама галоўрэд «Эха Москвы» Венедыктаў выказаў меркаваньне, што бліжэйшая сустрэча Пуціна і Лукашэнкі (заплянаваная на канец году — РС) можа вызначыць накірунак разьвіцьця адносінаў на наступных гады.

**Навіна з сайта www.svaboda.org**

КАМЕНТАРЫ

# «ОФИЦИАЛЬНО ПРИЗНАЛИ БЕЗРАБОТИЦУ В 12%»

**В список «не задействованных в экономике» граждан попали 500 тысяч белорусов. «Еще плюс 3-4 миллиона работают за еду практически. Полстраны в нищете».**

Как в эфире телеканала «Беларусь 1» заявила министр труда и социальной защиты Ирина Костевич, уже в феврале тунеядцы получат повышенные счета на подогрев воды.

— Если человек ошибочно включен в базу, он может прийти в комиссию или отправить письмо с документами, подтверждающими занятость, — сказала министр.

По словам чиновницы, информация в базе данных на первом этапе будет обновляться ежеквартально, а затем — в ежемесячном режиме.

Такую информацию белорусские интернет-пользователи встретили порцией критических комментариев — причем, судя по комментариям на дискуссионной площадке talks.by, инициативу чиновников не поддержали как безработные, так и работающие граждане.

«Ну вот и официально признали безработицу в 12%», — пишут комментаторы.

«Еще плюс 3-4 миллиона работают за еду практически. Полстраны в нищете».

«У нас 500 тысяч тунеядцев. А вы, министр, создали для них рабочие места в экономике со средней по РБ зарплатой? Это непосредственно ваша работа, а не заседание в комиссиях по тунеядцам».

«И что-то нет ни слова про ответственность чиновников за неправомерное причисление граждан к тунеядцам и попытку незаконного обогащения посредством завышенных тарифов».

«Зачем людей трогать? Боитесь, если лишний раз неработающий человек скорую вызовет, то дыра в бюджете образуется? Давайте посчитаем, сколько денег уходит на обслуживание трех резиденций президента... Вот и хватит вам денег».

«А когда первое удивление пройдет, народ еще и назначат виновным за случившееся. Происходящее ныне в экономике уже воспринимается властью как норма. И руководство страны не видит необходимости что-либо менять».

«С тех пор, как те, кто развалил экономику и стал банкротить предприятия, придумали безработных назвать тунеядцами, последних стало больше на 50 тысяч. Когда безработных станет еще больше, куда побегут бездельники и вредители из министерств? На скорости 200 км/ч к российской границе...»

«Хуже так называемых тунеядцев дармоеды на государственных должностях, имитирующие озабоченность проблемами занятости населения».

**Евгений Федоров**
**"Салідарнасць"**

**Заснавальнік і рэдактар:** Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

**Адрас рэдакцыі:** г. Віцебск, вул. 1-я Сененская д.5, Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: kas_vit@tut.by
Газета выдаецца з лютага 2014 г.

**Падпісана да друку 27.12.2018 у 18.20**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.